



# наша СЛОВА

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 41 (305) | 10 — 16 кастрычніка 1996 г. | Кошт -- 1000 рублёў






**БІЗНЕСМЕН ЗА НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ** *Стар.2.*

**СУСТРЭЧА Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ** *Стар.4.*


## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **У мэтах павышэння прэстыжу і эфектыўнасці інтэлектуальна-творчай працы, умацавання навуковага патэнцыялу краіны** Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў указ, у адпаведнасці з якім з 1 студзеня 1997 года ўстаноўлены памеры штомесячных даплат за вучоныя званні і ступені. Што ж, лепей пазней, чым ніколі...

❍ ***У Германіі ў Франкфурце-на-Майне адбыўся 48-ы міжнародны кніжны кірмаш.*** *Нашу краіну прадстаўлялі выдаўцы, паліграфісты, распаўсюджвальнікі кніг. На нацыянальным стэндзе было выстаўлена больш за 200 кніг.*

❍ **5-6 кастрычніка ў Менску прайшла Другая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Культура і адукацыя беларускага замежжа".** На ёй была вызначана дата правядзення II з'езда беларусаў свету. Ён пройдзе ў Менску 26-27 ліпеня 1997 года.

❍ ***У друку з'явілася інфармацыя,*** *што на 1 жніўня найбольшая ўдзельная вага стратных прадпрыемстваў прыпадала на галіны невытворчай сферы (жыллёва-камунальную гаспадарку, бытавое абслугоўванне насельніцтва, культуру і мастацтва). Аднак ці пабагацеем, калі станем эканоміць на культуры і мастацтве?*

❍ **Ля менскага касцёла св.Сымона і Алены (Чырвонага касцёла) устаноўлены помнік з надпісам:** "Абаронцам Бога, Веры і Хрысціянства". Бронзавы анёл — архангел Міхаіл — забівае кап'ём змея: сімвал перамогі дабра над злом.

❍ ***Завяршыўся першы рэспубліканскі конкурс "Жураўлік",*** *які праводзіў Беларускі саюз моладзі сярод старшакласнікаў. З вельмі вялікай колькасці сачыненняў, якія расказваюць пра любімага настаўніка, журы адзначыла 13. А самымі лепшымі былі прызнаны пяць работ. Пераможцы ўзнагароджаны каштоўнымі прызамі і падарункамі, а ўрыўкі з лепшых сачыненняў будуць надрукаваныя ў "Чырвонай змене", "Настаўніцкай газеце" і часопісе "Бярозка". Мо і "Нашаму слову" далучыцца?..*

❍ **Выйшаў у свет першы нумар часопіса "Сіці. Дзелавы горад",** які будзе адлюстроўваць жыццё прадпрымальнікаў. У добры шлях яго дабраславіў мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт. Вітаючы новы часопіс, хочацца спадзявацца, што выданне, якое выдаецца беларускімі прадпрымальнікамі, будзе калі не па мове беларускім, то хоць па духу.

❍ ***У свеце налічваецца прыкладна 5 тысяч "жывых" моў:*** *жыхары адной толькі Індыі размаўляюць на 845-ці мовах і гаворках. Многія народы, адмовіўшыся ад роднай мовы, зніклі назаўсёды. Не хочацца, каб у беларусаў быў такі ж лёс!*

❍ **"Народнай газеце" споўнілася шэсць гадоў.** За гэты час у яе змянілася некалькі рэдактараў. Тыраж яе быў больш за паўмільёна, і "Народная газета" была сапраўды народнай. Ды і цяпер у "НГ" самы большы тыраж у нашай краіне. Вінуючы "Народную газету" з шасцігоддзем, хочацца верыць, што яна, нягледзячы на тое, што розныя палітычныя сілы хочуць зрабіць яе "ручной", будзе несці на сваіх старонках толькі праўду.

❍ ***Як паведамілі ў Камітэце па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі,*** *Еўрапейская эканамічная камісія прадоўжыла тэрмін дзеяння летняга часу да 27 кастрычніка. З гэтай прапановай яна звярнулася і да шэрагу краін СНД. Такім чынам, Беларусь, Расія, Украіна, краіны Балтыі разам з усёй Заходняй Еўропай пяройдуць на зімовы час — пераводзячы стрэлкі гадзіннікаў на адну гадзіну назад — у 3 гадзіны ночы 27 кастрычніка.*

# Шляхам "вечнага вандроўніка"

Напрыканцы верасня група менскіх журналістаў, пісьменнікаў і навукоўцаў была запрошана ў Шаркаўшчынскі раён на закрыццё мастацкага пленэру памяці Язэпа Драздовіча, які праводзіла на радзіме мастака творчая суполка "Пагоня" Саюза мастакоў Беларусі. Цяпер не часта выпадае магчымасць пабываць у беларускай глыбінцы, таму я прыняў прапанову арганізатараў не вагаючыся, бо вельмі ўжо хацелася параўнаць, наколькі змянілася гэтая самая глыбінка за апошнія 2-3 гады.

І вось аўтобус імчыць у паўночным напрамку, а за вокнамі плывуць восеньскія краявіды. Недзе за Глыбокім аўтобус збочыў з асноўнай дарогі, і першае, што кідаецца ў вочы,— гэта шэрасць. Шэрасць скасабочаных вясковых хат, разбітых дарог і выгляд саміх людзей, іх твары і вочы. Вёска Лужкі. Спыняемся каля забытковага касцёла ў стылі віленскага барока XVIII ст., таго самага, які не раз маляваў сам Драздовіч. Звонку яго выгляд не вельмі прывабліва, але ўнутранае ўбранне хоць вельмі сціплае, але досыць ахайнае. Касцёльная вартаўніца распавядае пра тое, што не хапае сродкаў на рамонт, а людзі ахвяруюць зараз мала, бо ў калгасе ўжо некалькі месяцаў не выплачваюць заробак. Людзі, з якімі прыходзілася размаўляць пад час падарожжа, увогуле не маюць ніякай надзеі ні на што. Заўважаю сабе, што такой беспрасветнасці ў настроях яшчэ пару год таму ў іх не было.

Едзем да прыдарожнага каменя, які дзякуючы таленту менскага скульптара Алеся Шатэрніка стаў своеасаблівым помнікам Язэпу Драздовічу. Ля яго павінна пачацца ўрачыстая частка заканчэння пленэру. Па дарозе нас сустракае мастак Аляксей Марачкін.

Камень з выбітай выявай нашай "Пагоні" і надпісам "Шлях Драздовіча" ляжаў пры дарозе з часоў ледніка, а цяпер перетварыўся ў сымбаль. Як казалі выступоўцы на імправізаваным мітынгу, падарожныя людзі часта спыняюцца каля яго. Людзі пачынаюць задумвацца, хто яны на гэтай зямлі, і гэта вельмі важна. Таму і вырашылі мастакі правесці пленэр менавіта на радзіме мэтра, каб не толькі прасякнуцца духам той прыроды, таго асяроддзя і паветра, якім дыхаў Драздовіч, але яшчэ і таму, каб паказаць сапраўднае беларускае мастацтва мясцовым жыхарам. Культурнае жыццё не павінна абмяжоўвацца толькі межамі менскага праспекта Скарыны, казалі мастакі. Да яго павінны дакрануцца і простыя вясковыя людзі, хаця ў сённяшніх умовах зрабіць гэта было вельмі няпроста. Мясцовыя вертыкальшчыкі глядзелі на мастацкую акцыю, як на "нацыяналістычны шабаш", бо праходзіла яна пад бел-чырвона-белым сцягам, і як маглі перашкаджалі яе ўдзельнікам. Так, напрыклад, настаўнікі вясковых школ спачатку згадзіліся прывесці вучняў на адкрыццё выставы, прысвечанай іх слаўтаму земляку, але потым хутчэй за ўсё паступіў загад ад мясцовай вертыкалі: вучняў да "нацыяналістаў" не пускаць. Напэўна, баяліся, што пасля наведвання выставы ў раёне рэзка ўзрасце колькасць суполак БНФ.

У мясцовай жа вертыкалі зараз свой клопат. Як на належным узроўні выканаць прэзідэнцкую дырэктыву аб ідэалагізаваным забеспячэнні рэферэндуму, пра што прастадушныя правінцыйныя чыноўнікі паведалі мастакам. Наколькі ж запалохаў гэтых, у прынцыпе неблагіх людзей "усенароднаабраны бацька", што тыя, хто дапамагаў мастакам, прасілі не ўзгадваць іх імёнаў. Страх са зняволення падсвядомасці вырваўся вонкі.

Пасля была выстава работ мастакоў у музеі, што размясціўся на тэрыторыі фамільнага маёнтка графаў Плятэраў, магнацкага роду, прадстаўнікі якога не раз праславілі Беларусь у розныя перыяды гісторыі. Самая вядомая з іх Эмілія Плятэр, камандзір паўстанцкага аддзела ў рэвалюцыю 1831 года. За мужнасць і адвагу гэту маладую дзяўчыну называлі беларускай Жаннай Д'Арк.

Зараз на старасвецкім графскім палацы шыльда: **БССР. Саўгас "Гарадзец".** Адразу ўзгадаўся саўгас з такой жа назвай на Шклоўшчыне, у якім гаспадарыў, пакуль не вырас у палітыка сусветнага маштабу, адзін "славянскі віцязь". Але стаўленне ў кіраўніцтва шаркаўшчынскай гаспадаркі да нацыянальнай культуры зусім іншае, чым у іх былога калегі, таму ёсць надзея, калі раптам тут народзіцца новы прэзідэнт — патрыёт Беларусі.

**А.НЕВЯРОЎСКІ.**

# Кіраўніцтва Еўрапарламента прыедзе ў Беларусь

На мінулым тыдні дэлегацыя Вярхоўнага Савета вярнулася са Страсбурга, дзе праходзіла 4-я сесія Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы.

Сваімі ўражаннямі ад паездкі з журналістамі падзяліліся Юрый Малумаў, Сяргей Калякін, Пётр Краўчанка і Анатоль Лябедзька. Хаця яе вынікамі парламентарыі задаволеныя, відавочна, згоды паміж сабой ім дасягнуць не ўдалося. Калякін і Малумаў пераконвалі сваіх еўрапейскіх калег, што інфармацыя пра становішча ў Беларусі, якая трапляе ў Еўрапарламент, часта тэндэнцыйная і не ўсё так страшна. Беларусь трэба прыняць у Раду Еўропы зараз — вось пазіцыя часткі парламентарыяў.

Анатоль Лябедзька і Пётр Краўчанка даводзілі ў Страсбургу, што ў Беларусі парушаюцца правы чалавека і краіна спаўзае да дыктатуры.

А.Лябедзька сустрэўся са старшынёй Рады Еўропы сп.Лені Фішар. Яна была вельмі здзіўлена, калі пачула, што Прэзідэнт Лукашэнка спасылаецца на нейкіх экспертаў Еўрапарламента, якія нібыта далі негатыўную ацэнку цяперашняй Канстытуцыі Беларусі. Яна аўтарытэтна заявіла, што ніякай ацэнкі Рада Еўропы ніколі не давала.

Юрый Малумаў перадаў высокаму еўрапейскаму сходу праект Канстытуцыі, англійскі і французскі варыянты перакладу па некаторых звестках не зусім адпавядаюць арыгіналу. У гэтых варыянтах не прысутнічае 9-ы раздзел, які прадугледжвае працяг паўнамоцтваў Прэзідэнта пасля рэферэндуму яшчэ на 5 гадоў. Ад імя фракцыі "Грамадзянскае дзеянне" еўрапейскай асамблеі быў перададзены зварот, у якім адзначаецца, што Прэзідэнт стаў на неканстытуцыйны шлях захопу ўлады, ідзе наступ на правы і свабоды грамадзян і знішчэнне беларускай мовы і культуры.

Асноўным вынікам паездкі стала дамоўленасць пра візіт на Беларусь 24-25 кастрычніка дэлегацыі Рады Еўропы, якую ўзначаліць Лені Фішар.

**Язэп СІНІЦКІ.**

*Працягваючы тэму*

# Леанід Валуй з Выгара, які адстойвае свой сцяг

19 верасня г.г. "Наша слова" ў матэрыяле "Яго асабісты сцяг" расказала пра адна-асобнага селяніна, 40-гадовага сябра БНФ "Адраджэнне" Леаніда Валуя з в.Выгар Лагойскага раёна. Ён на ўласным панадворку ўсталяваў флагшток, на якім умацаваў бел-чырвона-белы сцяг. Летам міліцыянты з тамтэйшага РАУС, парушаючы правы Чалавека і Канстытуцыю, без запрашэння гаспадара ды яшчэ пад час яго адсутнасці ў доме "завіталі" ў хату Валуеў, а затым флагшток паламалі, а сцяг разадралі на шматкі.

Леанід Валуй, нагадаем чытачам, падаў за абразу ягонага нацыянальнага гонару ў суд адпаведны зыск. А на аднаўленым флагштоку на вятры зноў затрапятала бел-чырвона-белае палотнішча.

І вось навіна. Але не аб разглядзе зыску беларускага патрыёта ў судзе. А пра самасуд кштальту суда Лінча, які ўчынілі тры п'яныя механізатары мясцовай гаспадаркі над Леанідам і ягоным сцягам.

* * *

...Позна ўвечары 3 кастрычніка мне на кватэру ў Менск пазваніў з Лагойска былы дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, актывіст мясцовай суполкі ТБМ імя Ф.Скарыны, хірург па прафесіі Аляксандр Шут. З непадробным болем у голасе ён паведаміў: некалькі гадзінамі раней трое мужыкоў, калгасных механізатараў у стане лёгкага алкагольнага ап'янення ўварваліся на селішча Леаніда Валуя і рашуча запатрабавалі ад таго спусціць з флагштока бел-чырвона-белы сцяг. Ніякія аргументы гаспадара наконт ягонага нежадання падпарадкавацца дурному ці недарэчнаму загаду, ніякія заклікі да іхняга сумлення поспеху не мелі.

Мужчыны пусцілі ў ход кулакі і будаўнічы лом. Гаспадар абараняўся малатком. Добра, што справа абышлася без пераломаў ногрук і без надзвычайных наступстваў на здароўе чалавека. (Прынамсі, так было праз дзве гадзіны пасля гэтай фізічнай расправы.)

Пасля збіцця чалавека нязваныя "візітанты" зрабілі тое самае, што летам учынілі лагойскія ахоўнікі парадку: падралі бел-чырвона-белы сцяг. Карацей, здзейсніні не проста злачынства, якое караецца ва ўсіх цывілізаваных краінах свету, але яшчэ акцыю палітычнага вандалізму.

Аляксандр Шут праінфармаваў мяне: Леаніду Валую вядомыя людзі, якія зрабілі замах на ягонае жыццё і ягоны сцяг. Зараз ён піша скаргу на дзеянні хуліганаў райпракурору, каб супраць механізатараў узбудзіць крымінальную справу.

І гэта зразумела.

З аднаго боку, на тэрыторыі селішча, якое, як флагшток і сцяг, з'яўляецца прыватнай уласнасцю Валуя, здзейснены разбойны акт супраць гаспадара. З другога — Леаніду зноў нанесена абраза, якая тычыцца нацыянальных пачуццяў беларускага селяніна. Але ж пацярпеўшы сябра БНФ і прыхільнік ТБМ Леанід Валуй выдатна разумее: цёмных затурканых калгаснікаў нехта падбухторыў на мярзотны ўчынак і нават "натхніў" з дапамогай бутэлькі спіртнога — трэба высветліць, хто падбухторваў і натхняў. Праўда, спадар Валуй сумняваецца, што ў абстаноўцы наступу шавінізму і русіфікацыі (у прыватнасці, на сістэму школьніцтва), якая ўсталявалася на Лагойшчыне, раённая пракуратура, тым больш — міліцыя, аб'ектыўна разбяруцца ў гісторыі гэтага разбойнага нападу.

Як зазначае Аляксандр Шут, цкаванне Леаніда Валуя, чыя "віна" хаваецца ў любові да гістарычнай сімволікі і роднага слова, усё больш набывае чарнасоценны, фашыстоўскі характар. Пераслед гэтага чалавека — вынік мінулагодняга плебісцыту, які раскалоў грамадства краіны на палітычна супрацьстаячыя бакі па нацыянальнай прыкмеце.

Што ж настане ў нашым грамадстве, калі адбудзецца новы рэферэндум адносна абодвух варыянтаў новай Канстытуцыі, дзе прыніжаецца роля беларускай мовы і нават не згадваецца права грамадзян карыстацца гістарычнай сімволікай Беларусі?

Аляксандр Шут паведаміў: і яму ўжо тойсёй з ліку незычліўцаў зрабіў папярэджанне. Маўляў, калі адбудзецца рэферэндум № 2, то і былому дэпутату ад парламенцкай апазіцыі, і ягонай сям'і не давядзецца жыць у Лагойску спакойна.

Калі пішуцца гэтыя радкі, Леанід Валуй пашывае ўжо трэцяе па ліку палотнішча, каб бел-чырвона-белы сцяг зноў расправіў свае крылы над селішчам беларуса. Нацыянальны гонар можна абразіць, але знішчыць немагчыма.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**сябра Беларускага Хельсінкскага камітэта, карэспандэнт "Нашага слова".**

**Ад рэдакцыі:** Пра ход далейшых падзей, звязаных з праследам Л.Валуя, газета паведаміць дадаткова.

# Сустрэча ў Кліўлендзе

Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі і Канады адбываюцца што два гады па чарзе то ў адной, то ў другой краіне. Пачатак іх правядзенню быў пакладзены ў 1952 годзе. Традыцыйна сустрэчы ладзяцца ў пачатку верасня, у Labour day — дзень, калі Амерыка адзначае свята працы і людзі маюць дадатковыя вольныя дні.


Маніфестацыя беларусаў ЗША ў падтрымку дэмакратыі на радзіме.

Да сустрэчы рыхтуюцца загадзя, за некалькі месяцаў. Жанчыны шыюць новыя сукенкі, мужчыны рыхтуюць урачыстыя прамовы, бо тое, што адбудзецца,— не проста афіцыйнае мерапрыемства, а агляд, які робіць сабе беларуская эміграцыя. У сямейных фотаальбомах беларускіх эмігрантаў захаваліся здымкі, зробленыя ў 50-я гады: дзесяткі поўных энтузіязму маладых хлопцаў і дзяўчат, убраных хто ў народныя строі, хто ў модныя ў той час сукенкі і гарнітуры. Гэта было пакаленне паваеннай эміграцыі, якое стварыла новую хвалю беларускага нацыянальнага руху па той бок акіяна. Але час прайшоў, фазу развіцця змяніла фаза стагнацыі. Сёння на сустрэчы прыязджаюць тыя ж людзі, але пастарэлыя на сорак гадоў. Моладзі ў іхнім асяроддзі няшмат — дзеці і ўнукі эмігрантаў пачуваюць сябе амерыканцамі. Аднак вартая павагі ўжо адна толькі адданасць амерыканскіх грамадзян беларускага паходжання сваім караням.

Праўда, удзельнікамі апошніх сустрэчаў рабіліся не толькі прадстаўнікі старэйшага пакалення ці іх дзеці, але і людзі з новай плыні эміграцыі — тыя беларусы, якія апошнім часам пераехалі ў Амерыку і засталіся там жыць. Праўда, новыя эмігранты не бяруць такога чыннага ўдзелу ў грамадскім руху, як старыя. Чаму? Выхаваныя ў традыцыях савецкай сістэмы, яны не маюць звычкі грамадзян свабодных краін яднаць намаганні ў нейкай справе. Яны занятыя ўладкаваннем свайго жыцця на новай радзіме. Ды, урэшце, да пераезду на чужыну большасць з іх падштурхнула эканамічная, а не палітычная сітуацыя ў Беларусі, як гэта было з актывістамі нацыянальнага руху паваеннай пары.

З 31 жніўня па 2 верасня ў грамадскім цэнтры "Полацак" амерыканскага горада Кліўленда (штат Агаё) адбылася Дваццаць другая сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі і Канады, арганізаваная Беларуска-амерыканскім задзіночаннем і Згуртаваннем беларусаў Канады. На яе яны за ўласны кошт, у вольны ад працы час прыехалі з Лос-Анджэлеса, Фларыды, Чыкага, Нью-Ёрка, Таронта і іншых далёкіх куткоў амерыканскага кантынента.

Кліўленд — невялікі амерыканскі гарадок недалёка ад канадскай мяжы, у якім па вайне стварылася даволі вялікая беларуская калонія. У горадзе дзейнічае аддзел БАЗА — Беларуска-амерыканскага задзіночання, якое мае цэнтральную сядзібу ў Нью-Ёрку. Узначальвае мясцовую арганізацыю БАЗА Янка Ханенка — прадстаўнік эміграцыі новага часу. Дзякуючы намаганням некалькіх энтузіястаў — Сяргея Карніловіча, Кастуся Калошы ды іншых — беларусы, уклаўшы ў грамадскую справу ўласныя грошы, заняўшыся гандлем і праводзячы розныя дабрачынныя акцыі, назбіралі сродкаў дастаткова, каб набыць зямлю і збудаваць на ёй уласны культурны цэнтр "Полацак" — будынак з актавай залай, бібліятэкай, сталоўкай, барам, дапаможнымі памяшканнямі. Пры гэтым цэнтры дзеюць гурткі самадзейнага мастацтва, ладзяцца выставы, вечарыны.

Апошнім часам Кліўленд прыцягвае шмат новых эмігрантаў-беларусаў. Ад сваіх амерыканскіх землякоў яны могуць атрымаць там нейкую спамогу, магчымасць знайсці працу і жытло ў незнаёмай краіне. Калонія жыве і ўжо прымала сустрэчу беларусаў у 1990 годзе.

Апошняя сустрэча, удзельнікамі якой сталі некалькі соцень асобаў, у нечым мала рознілася з папярэднімі. Тон ёй традыцыйна задавала старэйшае пакаленне. З прамовамі-справаздачамі выступілі кіраўнікі арганізацый беларускіх эмігрантаў ЗША і Канады — культурніцкіх, грамадска-палітычных, дабрачынных. Сёлетняя сустрэча, як і ўсе папярэднія, мела ўласны дэвіз, гэтым разам — у абарону дзяржаўнасці і дэмакратыі ў Беларусі.

Наогул, палітычнай сітуацыі на радзіме надаюць шмат увагі ўдзельнікі кожнай сустрэчы, абмяркоўваючы магчымыя захады да ўмацавання суверэннай беларускай дзяржавы. Але апошняя сустрэча ў гэтым плане істотна рознілася з дзвюма папярэднімі, якія адбыліся пасля аднаўлення беларускай незалежнасці.

Сустрэча 1992 года, што была арганізаваная ў Нью-Брансвіку (ЗША), прайшла ў атмасферы сапраўднай эйфарыі. Эмігранты з замілаваннем глядзелі на Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг, якія сталі афіцыйнымі сімваламі дзяржавы. Праблемы, якія прымусілі гэтых людзей пакінуць радзіму, здаваліся ім вырашанымі назаўсёды. Разам з новай сімволікай беларусы набылі новае ўсведамленне сябе як народа, пачалі будаваць тую дзяржаву, стварыць якую не здолелі калісьці яны самі, — падавалася эмігрантам. Таму вельмі шанаванымі гасцямі на сустрэчы былі тагачасны міністр замежных справаў Пётр Краўчанка, кіраўнік нядаўна створанай "Бацькаўшчыны" Яўген Лецка, дэпутат Вярхоўнага Савета і адзін з кіраўнікоў БНФ і ТБМ Валянцін Голубеў ды іншыя госці з Беларусі, якіх літаральна насілі на руках.

Сустрэча 1994 года прайшла ў Таронта (Канада). Прэзідэнцкія выбары ў Беларусі ўжо адбыліся, і ўдзельнікі сустрэчы, якія прыехалі на яе з Беларусі, давалі Аляксандру Лукашэнку хаця і стрыманую, але дакладную характарыстыку. Яны выказвалі свае засцярогі, адкрыта заяўляючы: Беларусь зрабіла не найлепшы выбар. У асяроддзі эмігрантаў гэтыя словы слухалі ўважліва, але з доляй недаверу. Гэткае стаўленне прадстаўнікоў дэмакратычнай апазіцыі да новага Прэзідэнта выклікана найперш іх паражэннем у спаборніцтве з Лукашэнкам, у ім ёсць доля рэўнасці, — так меркавала дыяспара. Таму сустрэча скончылася ўхваленнем тэксту вялікага ліста да першага Прэзідэнта — віншаваннем таго з нагоды абрання і выказамі спадзяванняў эміграцыі на развіццё і замацаванне нацыянальнай дзяржаўнасці Беларусі.

Ніякага адказу на гэты ліст (поўны тэкст якога надрукавала газета "Культура") эмігранты не атрымалі. Але за два гады, што мінулі з часу яго напісання, усе выказаныя ў ім пажаданні былі выкананыя — адно што з адваротным знакам.

Таму сустрэча, што адбылася сёлета, не ва ўсім была падобнай на дзве папярэднія. Яе тэма была прадыктавана разуменнем таго, што Беларуссю кіруе чалавек, адкрыта варожы беларушчыне, беларускай дзяржаўнасці і дэмакратыі, які імкнецца зруйнаваць незалежнасць краіны. Адсутнасць падтрымкі эміграцыі дзеяннямі беларускай адміністрацыі дэманстравалася ці не ў кожнай прамове ўдзельнікаў сустрэчы. Магчыма, якраз таму сярод іх аказалася як ніколі шмат вядомых і ў Беларусі, і ў ЗША палітыкаў і грамадскіх дзеячаў: кангрэсмен Мартын Гоўк, экс-лідэр апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Зянон Пазьняк, экс-старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, экс-пасол ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц, прадстаўнікі адміністрацыі штата Агаё ды іншыя. Затое адсутнічалі прадстаўнікі афіцыйнай Беларусі (чатыры гады таму імі былі міністр замежных справаў і пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН).

Увагу амерыканскіх лідэраў да беларускіх праблем выклікалі шматлікія факты парушэнняў правоў чалавека ў нашай краіне, якія адбыліся за апошнія два гады. Найбольшую занепакоенасць гэтым выказалі прадстаўнікі партыі рэспубліканцаў, якія традыцыйна шмат увагі надаюць пытанням вонкавай палітыкі Злучаных Штатаў. "Вашыя праблемы — мае праблемы",— сказаў у сваёй прамове на сустрэчы кангрэсмен-рэспубліканец Мартын Гоўк, звяртаючыся да беларусаў Кліўленда — сваіх выбаршчыкаў.

Што тычыцца беларусаў "тутэйшых", дык наўрад ці каго з іх моцна ўразіла цікаўнасць да іхніх справаў амерыканцаў ці сказаныя эмігрантамі на сустрэчы прамовы. Не менш змястоўныя прамовы на карысць незалежнасці, беларушчыны і дэмакратыі яны чулі і ў сябе дома, дзе ад вынікаў рэалізацыі гэткіх заклікаў залежыць будучыня мільёнаў людзей. Гасцей з Беларусі ўразіла хутчэй тое, што іхнімі праблемамі жывуць добра ўладкаваныя ў жыцці людзі, грамадзяне іншай краіны, лёс якіх не залежыць ад таго, ці будуць беларусы жыць у заможнай дэмакратычнай краіне, урад якой будзе шанаваць іхнія правы. Іх, добра знаёмых з абыякавасцю да ўсяго сваіх суайчыннікаў, уразіла найперш гэтая шчырая зацікаўленасць эмігрантаў справамі сваёй бацькаўшчыны, гатоўнасць тых ахвяраваць наладжанасцю свайго жыцця і заробленымі ўласнай нялёгкай працай грашыма дзеля карысці іншых. Яны ўбачылі людзей, якія нават далёка ад радзімы захавалі яе мову, сімволіку ды ідэю яе незалежнасці, якія жывуць паводле трэцяй устаўной граматы БНР і якіх непакоіць тое, што адбываецца ў краіне, дзе яны нарадзіліся.

Амерыканскія беларусы і сапраўды імкнуцца ведаць усё аб жыцці на радзіме. Інфармацыйнай блакады, пра якую часта згадваюць і ўрад, і апазіцыя тут, для эмігрантаў не існуе. Пэўныя і дакладныя звесткі яны атрымліваюць не з беларускіх газет, якія прыходзяць у ЗША са спазненнем на тыдні, а з электроннай пошты альбо з сусветнай кампутарнай сеткі "Інтэрнэт", да якой падключаны іхнія персанальныя кампутары. Праз той жа "Інтэрнэт" беларускія эмігранты па ўсім свеце атрымліваюць выдаваныя ў Беларусі незалежныя газеты на дзень раней, чым тыя даходзяць да падпісчыкаў на радзіме. У эмігранцкія цэнтры сыходзіцца і аналізуецца ўся інфармацыя, якую падаюць з Беларусі заходнія інфармацыйныя агенцтвы. Людзям, не маючым кампутара ці не падпісаным на "Інтэрнэт", звесткі перадаюцца праз тэлефон. Кожная падзея жыцця Беларусі горача абмяркоўваецца ў іхніх асяродках у той самы дзень, калі яна адбываецца.


Удзельнікі сустрэчы.

Апошнія звесткі аб становішчы ў Беларусі ў спалучэнні з набытым эмігрантамі досведам жыцця ў вольнай дэмакратычнай краіне адбіліся на ходзе сустрэчы ў Кліўлендзе. Праблемы абмежавання сферы ўжытку мовы, закрыцця беларускіх школаў ды іншыя клопаты беларускіх дэлегатаў з'езда выклікалі хутчэй не спачуванне ці абурэнне, а подзіў у асяроддзі эмігрантаў. Кожны будуе сваё жыццё сам — гэтыя словы грамадзяне Амерыкі зрабілі сваім прынцыпам. Таму яны з цяжкасцю разумелі праблемы "тутэйшых", уважаючы: тыя мусяць самі дамагацца свайго. Ім было папросту незразумела, што азначаюць словы "не далі магчымасці вучыцца па-беларуску" ці "бацькоў прымусілі напісаць заяву аб выкладанні па-расійску". Бо калі грамадзянін ЗША прыходзіць да пераканання, што яго дзіця мусіць атрымаць менавіта такую адукацыю, ён займаецца агітацыяй, пераконвае іншых, шукае аднадумцаў, стварае ў сваёй школе бацькоўскі камітэт і гадамі будзе дамагацца выканання дзяржаваю таго, што ён лічыць слушным. "Варта было ў вас правесці нейкі рэферэндум, варта было некаму нешта сказаць, як ўсе адразу склалі рукі" — такія ці падобныя фразы маглі чуць беларускія ўдзельнікі сустрэчы.

Гатоўнасць грамадзян Беларусі пагаджацца з любымі формамі ўціску замежным удзельнікам кліўлендскай сустрэчы была папросту незразумелай. Іхнія дзеці таксама не мелі магчымасці вучыцца ў беларускіх школах. Але для іх стараліся нядзельныя школы, дзеці ў сем'ях вучылі беларускую мову, якой не чулі ні ў школе, ні на вуліцы. Таму з абурэннем згадваліся выпадкі, калі чалавек, прыехаўшы на радзіму з-за акіяна, чуў, як па-расійску гавораць з уласнымі дзецьмі тыя, хто пад час побыту за мяжою рваў кашулю на грудзях, выказваючы любоў да роднай мовы. Нараканні на падобную, мякка кажучы, непаслядоўнасць нашыя суайчыннікі чулі ў кулуарах сустрэчы. А падставы выказваць іх амерыканскія беларусы мелі: мовай радзімы сёння гаворыць ужо чацвёртае іх пакаленне — унукі ўраджэнкі Беларусі сп-ні Галіны Русак, якія па бацькоўскай лініі з'яўляюцца нашчадкамі славутага амерыканскага генерала Гранта.

Цалкам іншую рэакцыю эмігрантаў выклікаюць тыя іх беларускія суродзічы, якія не толькі дэкларуюць адданасць справе адраджэння Беларусі, але і робяць да таго канкрэтныя захады. Яны гатовыя аказаць маральную падтрымку любым арганізацыям і дзеячам, якія змагаюцца за незалежнасць радзімы. Гэтым тлумачыцца тое, што пачэснымі гасцямі сходу сталі новыя палітычныя эмігранты з Беларусі — Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык. Атрыманне імі статуса палітычных эмігрантаў зрабіла абодвух вядомымі не толькі на радзіме, але і сярод грамадзян ЗША. Але прыхільнасць удзельнікаў сустрэчы здабылі не толькі прадстаўнікі БНФ, але і іншыя беларускія палітыкі — удзельнікі менскага "круглага стала", якія здолелі дайсці да згоды ў імя дасягнення адзінае мэты.

Грамадзянам свабоднай дэмакратычнай краіны ўласцівае імкненне дамагацца сваіх мэтаў шляхам кампрамісу, а не канфрантацыі. Верагодна, якраз таму ўдзельнікі кліўлендскай сустрэчы не палічылі патрэбным абмяркоўваць на ёй магчымасць рэфармавання ўрада БНР і ўключэння ў яго новых беларускіх палітычных эмігрантаў. Да таго ж, замацаванню іх аўтарытэта не паспрыяў публічны дыялог паміж З.Пазьняком і С.Шушкевічам, які стаў часткаю праграмы сустрэчы. Замест сустрэчы дзеячаў блізкіх поглядаў ён нечакана набыў падабенства спрэчкі паміж палітычнымі праціўнікамі і звядзення старых рахункаў.

Што даў удзел у сустрэчы прадстаўнікам метраполіі? Разуменне таго, што сёння менавіта на эміграцыі дзейнічае легітымны ўрад БНР, які дагэтуль не палічыў патрэбным здаць паўнамоцтвы беларускаму кіраўніцтву. Разуменне важнасці захавання дэмакратычных прынцыпаў у справе дасягнення сваёй мэты, асабліва важнае для выхаваных таталітарнай савецкай сістэмай беларускіх палітыкаў і грамадскіх дзеячаў. Разуменне неабходнасці апоры не на падтрымку іншых ці на дзяржаўныя інстытуты, а на ўласныя сілы — менавіта гэткім чынам захавала сябе беларуская дыяспара. І галоўнае — разуменне трываласці беларускай ідэі.

# "Мы прызнаём амаральнасць гэтага закона..."

Беларусь — маленькая краіна. Таму па вуліцах яе гарадоў і вёсак побач ходзяць і тыя, каго на працягу больш чым сямідзесяці гадоў улада рэпрэсавала, і тыя, хто гэтыя рэпрэсіі планаваў і здзяйсняў. Каты працягваюць насіць атрыманыя раней пачэсныя званні, маюць добрыя пенсіі і паміраюць ад старасці, а не ад кулі. Пра іх мінулае ніхто не згадвае.

Але ў свеце ёсць краіны, дзе на людзей з падобным мінулым глядзяць па-іншаму. Адна з іх — Чылі.

Пасля таго, як у верасні 1973 года ўладу ў Чылі захапіў генерал Пінаچэт, па краіне пракацілася хваля тэрору, якая сваёй жорсткасцю ўразіла ўвесь свет. Ад 1973 па 1990 гады ў Чылі зафіксавана больш за 2200 выпадкаў заказных забойстваў, у тым ліку і масавых, мноства смерцяў ад катаванняў. Дзесяткі тысячаў людзей былі катаваныя і на доўгі час кінутыя ў турмы. Без вестак знікла больш за тысячу асобаў. Што сталася з імі, невядома. Але дагэтуль па ўсёй краіне ў катакомбах ці брацкіх магілах знаходзяць рэшткі людзей, забітых у тыя гады.

Шэсць гадоў таму вайсковая дыктатура ў Чылі саступіла месца дэмакратычнаму цывільнаму ўраду. Дзеля расследавання злачынстваў хунты новай уладай была створаная Камісія грамадзянскага замірэння, галоўнай задачай якой было аднаўленне справядлівасці. Нечакана для многіх (але не для ўсіх) камісія абмежавалася адно асуджэннем злачынстваў.

Але старыя раны працягваюць балець. Сваякі забітых абураныя тым, што забойцы беспакарана гуляюць на свабодзе. Таму мітынгі, на якіх людзі выказваюць сваё абурэнне гэтым, адбываюцца на пляцах Сант'яга дэ Чылі рэгулярна. Іх удзельнікі — пераважна жанчыны — голасна паўтараюць імёны сваіх зніклых без вестак мужоў і сыноў. Спіс ахвяраў рэжыму здаецца бясконцым. За гады, што мінулі, людзі страцілі надзею ўбачыць сваіх блізкіх жывымі. Але яны хочуць ведаць праўду аб іхнім лёсе. Яны хочуць пакарання тых, хто катаваў і забіваў.

— Ніхто не можа апраўдаць гэтыя злачынствы. Мы хочам ведаць праўду. Мы хочам ведаць, дзе рэшткі забітых. Мы хочам ведаць, хто аддаваў загады,— гаворыць Соле Сіера, кіраўніца арганізацыі "Сваякі зніклых". Яе мужа забралі яшчэ ў 1979 годзе.

Хуан Рамас, які ў 1974 годзе быў адным са студэнцкіх лідэраў універсітэта Сант'яга, застаўся жывым выпадкова. Аднае начы яго забралі на допыт і, палічыўшы памёрлым ад катаванняў на ім, скінулі з моста ў раку. Рамас застаўся жыць. Ён здолеў уцячы з Чылі, дзесяць гадоў пражыў у Вялікай Брытаніі і толькі нядаўна вярнуўся на радзіму.

— Мяне непакоіць тое, што справядлівасць не адноўлена. Гэта непакоіць усіх ахвяраў рэжыму. Каты ходзяць па вуліцах і смяюцца нам у твар, ім нічога не пагражае,— кажа ён.

Забойцаў і сапраўды не страшыць магчымасць перасьледу. Перад тым, як саступіць уладу дэмакратычна абранаму парламенту, чылійскі дыктатар генерал Пінаچэт настаяў на амністыі для ўсіх, хто, выконваючы ягоныя загады, чыніў рэпрэсіі. Акрамя таго, усялякія спробы новага ўрада раскрыць таямніцы вайсковага рэжыму перасякаюцца ўплывовымі палітыкамі і армейскім кіраўніцтвам. Стасункі паміж урадам і арміяй, якая ўладарыла ў краіне каля семнаццаці гадоў, вельмі складаныя. Напачатку гэтага года прэзідэнт краіны скіраваў у парламент праект закона аб аднаўленні пошукаў людзей, зніклых без вестак. Але праект быў заблакаваны сенатам, які дагэтуль кантралюецца вышэйшым вайсковым кіраўніцтвам. У такіх абставінах афіцыйны прадстаўнік урада Хаакін Бруна заявіў: выкрыццё ўсіх злачынстваў дыктатуры застаецца важнай справаю для чылійскіх уладаў, але найважнейшай ёсць утрыманне раўнавагі і недапушчэнне новага перавароту. "Мы не можам дзейнічаць насуперак закону аб амністыі і не можам змяніць прынятых шэсць гадоў таму ўмоваў. Мы прызнаём амаральнасць гэтага закона, але ён стаў важнай часткай працэсу дэмакратызацыі",— сказаў ён.

Трэба дадаць, што калі ўрад Чылі меў магчымасць судзіць злачынцаў, дык ён рабіў гэта без ваганняў. Праўда, такі выпадак быў адзіным. Тады ў турму патрапіў шэф тайнай паліцыі хунты генерал Кантрэрас, прызнаны вінаватым у арганізацыі забойства ў 1976 годзе Арланда Летэлье — міністра замежных справаў скінутага хунтай урада Альендэ. Суд адбыўся толькі таму, што Летэлье быў забіты за мяжою Чылі — у ЗША, і таму гэтая справа не падлягала амністыі.

Сёння тыя, хто забіваў і аддаваў на гэта загады, далёкія ад пакаяння. Яны сцвярджаюць, што дзеялі, ратуючы нацыю ад палітычнага і эканамічнага краху. Іхняя беспакаранасць — умова грамадзянскага міру.

**Падрыхтаваў У.П.**

**Уражанні**

# Чужы сярод сваіх, або Як мяне залічылі ў настаўнікі

Не так даўно адпачываў па пуцёўцы ў не надта прэстыжным, але ўвогуле нядрэнным палескім санаторыі. Па прыездзе ў пакоі рэгістрацыі загаварыў з маладой жанчынай, якая прымала адпачываючых, па-беларуску. Яна адразу адрэагавала: "Вы наверно учитель сельской школы?" Убачыўшы на маім твары здзіўленне, дадала: "Они инагда гаварат с нами по-белорусску." Я не адступаў, мяне, як кажуць, закранула за жывое. А што, пытаюся, інжынеры, урачы, культработнікі, вяскоўцы, што прыязджаюць да вас з усёй рэспублікі, размаўляюць інакш? "Почти все по-русску",— пачуў у адказ.

Запыт накont майго настаўніцкага "статуса", як ні дзіўна, у першы дзень знаходжання ў санаторыі мне задавала аж сем чалавек: урач, медсёстры, санітаркі, сястра-гаспадыня, адпачываючыя, да якіх я звяртаўся па нейкіх пытаннях. Адна немаладая, мусіць з мясцовых, жанчына нават палічыла мяне за пісьменніка Івана Муравейку, які жыве ў гарпасёлку Любань. Да вечара мне абрыдла адказваць, што я не настаўнік — проста беларус, люблю матчыну мову. Гэта выклікала нейкае здзіўленне ў вачах пытаўшых — яны, напэўна, лічылі мяне дзіваком. Таму за час знаходжання ў здраўніцы, дзе адпачывала больш за дзвесце чалавек, маладых і старых, гараджан і вяскоўцаў, сустрэў толькі аднаго, журналіста на пенсіі з Салігорска, з кім мог пагаварыць на нашай мове. Быў, праўда, настаўнік-пенсіянер, заслужаны педагог рэспублікі, які сёе-тое мог гаварыць па-беларуску. Але калі яму на развітальным вечары адпачынку вядучая дала слова, загаварыў... па-расійску. Быццам саромеўся сваёй мовы. Ды і вядучая вечара, маладая жанчына, жыхарка суседняй вёскі, звярталася да прысутных не на роднай мове, якую, як я даведаўся, добра ведае. На пытанне, чаму ёю не карыстаецца ў гутарцы з адпачываючымі, адказала са скрухай у голасе: "Спрабавала ў першыя дні маёй работы тут, аднойчы пенсіянеры з Гомельшчыны на мяне зашыкалі: "Кончай со своей мовай, разговаривай по-человечески!". Не ўбачыўшы заступнікаў з боку адпачываючых, яна здалася.

Вось такія мы ўжо даўно — пакорлівыя, цярплівыя да праяў знявагі ўсяго нашага, нацыянальнага, святога, завешчанага продкамі. Мы ведаем вытокі гэтай хваробы — яны ў татальнай русіфікацыі, што фармавалася на працягу двух стагоддзяў і якая змяніла нават характар, натуру многіх беларусаў. І яны ўжо ўспрымаюць, як належнае, той факт, што ў краіне, якая лічыцца пакуль нацыянальнай, са ста газет дзевяноста пяць — расійскамоўныя, у бібліятэках 80-90 працэнтаў кніжнага фонду — таксама.

Пасля сумнавядомага рэферэндуму наша рэспубліканскае радыё і тэлебачанне дзень пры дні "русюць". Дзякаваць Богу, хоць у частцы перадач сумленныя журналісты задаюць яшчэ пытанні і размаўляюць пабеларуску.

У адным з інтэрв'ю газеце "Літаратура і мастацтва" паважаны наш пісьменнік Іван Шамякін паведаў пра два свае пісьмы да Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў газету "Звязда", у якіх ён біў трывогу за лёс нашай мовы, патрабаваў заканадаўча падтрымаць яе. І даваў свой рэцэпт — так званы "бельгійскі варыянт". Сэнс яго —фактычная роўнасць дзвюх моў. Ён лічыць неабходным прыняць закон, па якім для заняцця дзяржаўных пасад ад сакратара сельсавета да міністра трэба дасканала ведаць абедзве мовы — беларускую і расійскую.

Прэтэндэнты здаюць экзамен па беларускай мове, а выпускныя экзамены ў школах і прыёмныя ў ВНУ праводзяцца на дзвюх мовах. І, тады, мяркую, гэтая праблема будзе знята раз і назаўсёды.

Толькі штосьці мала веры ў жыццядзейнасць такога варыянту. І вось чаму. Скажам, чыноўнікі ўсіх рангаў, хто сёння адварочваецца ад роднай мовы, здаюць такія экзамены. І што — пасля гэтага яны стануць шчырымі прыхільнікамі яе, будуць размаўляць па-беларуску з наведвальнікамі, калегамі, падначаленымі? Гавораць па-расійску, "свежо предание, да верится с трудом". Пакуль тры галоўныя асобы ў дзяржаве — Прэзідэнт, прэм'ер-міністр, Старшыня Вярхоўнага Савета — будуць гаварыць перад аўдыторыяй, з журналістамі на расійскай мове, пакуль уся дакументацыя ва ўстановах, на прадпрыемствах, выкладанне ў большасці школ і ва ўсіх ВНУ, тэхнікумах будуць весціся на мове суседняй дзяржавы, нікія экзамены з чыноўнікамі карысці не дадуць. Асабліва цяпер, калі актывізаваліся ў краіне ворагі беларушчыны, ярыя русіфікатары з ліку саміх беларусаў, хворых на прыстасаванства.

**Міхась ТЫЧЫНА,**
**член Слуцкай гарадской Рады**
**Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.**

# Кола сям'і

*Масару ІБУКА*

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

### Цікавасць дзіцяці патрабуе падмацавання

Вядома, цікавасць — найлепшы стымулятар у выхаванні дзіцяці. Але тут ёсць адна праблема: цікавасць дзіцяці да чагосьці аднаго хутка знікае, таму што цікаўнасць яго бязмежная. Калі пакінуць дзіця сам-насам, яго ўвага будзе пераскокваць з аднаго прадмета на другі. Канешне, гэта ўласціва ўзросту малога, і спробы прымусова ўтрымаць яго ўвагу на чымсьці адным могуць мець адваротны эфект. Цікаўнасць дзіцяці — важная ўмова спазнання свету і абсалютна неабходная для яго разумовага і інтэлектуальнага развіцця.

І ўсё-такі я б не раіў даваць дзіцяці поўную волю. Для яго адносінка непажадана замыкацца на адным прадмеце (крайняя форма гэтага стану называецца аўтызмам) і раскідвацца з-за няздольнасці засяродзіцца на чымсьці доўга. У выніку яно можа вырасці легкаважным чалавекам.

Сярод мноства цікавых рэчаў у навакольным свеце дзіця ўвесь час знаходзіць захапленні, дзе яму ніхто не патрэбны. Але звычайна яму ўсё-такі неабходная дапамога дарослага. Часта ад таго, наколькі хутка дарослы заўважыць і адрэагуе на ўзнікненне ў дзіцяці цікавасці, залежыць, захаваецца яна ці не, разаўецца ў нешта сур'ёзнае ці хутка згасне. Таму вельмі важна не ўпусціць яе. Мы не ведаем, якія інтарэсы дзіцяці могуць развіцца ў здольнасці, але ва ўсякім выпадку ў яго павінен быць шанц развіць іх.

### Паўтарэнне — лепшы спосаб стымуляваць інтарэс дзіцяці

Калі дарослага прымусіць слухаць адну і тую ж гісторыю некалькі разоў на дзень, яна яму смяротна надакучыць. Я сам чалавек нецярплівы і нават двух разоў не ў стане выслухаць адно і тое ж. Але ў дзяцінстве я прымушаў сваіх бацькоў расказваць мне казкі па шмат разоў і ніколі ад іх не стамляўся. Паўтарэнне вельмі важнае для тых сувязяў, якія фармуюцца ў мозгу. Паўтарэнне пажаданае не толькі таму, што дзіцяці яно не можа надакучыць, але галоўным чынам таму, што немаўля не ведае суму, гэта найлепшы час для фармавання правільных схемаў у мозгу дзіцяці, якія вызначаюць усё яго наступнае інтэлектуальнае жыццё. Трохмесячнае дзіця можа запомніць складаны музычны твор, калі яго прайграць яму некалькі разоў запар. Здольнасць немаўляці да засваення інфармацыі велізарная.

Паўтарэнне ў гэты перыяд мае яшчэ адну важную функцыю. Дзіця запамінае казкі і песні пры шматразовым паўтарэнні і пачынае аддаваць перавагу якойсьці адной гісторыі ці песеньцы, працягвае задаваць свае бясконцыя пытанні, што тычацца яе зместу. Яно запамінае улюбёную казку напамяць і на яе матэрыяле да пэўнага часу задавальняе сваю цікаўнасць да свету.

Цікаўнасць спараджае інтарэс, які ў сваю чаргу выхоўвае волю, гэтак неабходную для сталення. Воля да дзеяння не з'яўляецца на пустым месцы. Воля стымулюецца цікаўнасцю і ў сваю чаргу заахвочвае чалавека да далейшага развіцця. Немаўля слухае казкі, пасля яно праяўляе цікавасць да малюнкаў, затым да літар і, нарэшце, хоча навучыцца чытаць.

Я ведаў адных бацькоў, якія аддалі сваё дзіця ў інтэрнат на год і два месяцы, бо шмат працавалі. Калі дзіця вярнулася дадому, яно моцна адставала ў развіцці. Аднак ва ўзросце чатырох-пяці гадоў у яго раптам праявіўся інтарэс да музыкі, асабліва да заняткаў скрыпкай і фартэпіяна. Бацькі не маглі даўмецца — адкуль гэты раптоўны інтарэс? Яны разумелі, што ў інтэрнаце дзіця не атрымлівала належнага інтэлектуальнага стымулявання, хаця перад сном дзецям прайгравалі пліты з калыханкамі Моцарта і Шуберта.

Недастатковае інтэлектуальнае стымуляванне, з аднаго боку, і паўтарэнне адных і тых жа музычных твораў, з другога — самарушылі яго разумовае развіццё, але падвысілі ўспрымальнасць да музыкі. Гэта гісторыя вельмі паказальная і наводзіць на сур'ёзныя развагі пра неадназначнасць разнастайных уздзеянняў на развіццё дзіцяці ў раннім дзяцінстве.

*(Працяг будзе.)*

# Ваша сядзіба

Некалі чэшскі пісьменнік-гумарыст Карэл Чапек заўважыў, што позняя восень — адзіная пара, калі агароднік можа нарэшце разагнуць спіну і палюбавацца сваімі палеткамі — усё акуратна прыбрана, пачышчана, і з'яўляецца лёгкая настальгія па нядаўніх клопатах і ўраджайных дасягненнях, з цёплай усмешкай успамінаюцца ранняя кветкі і першы чырванабокі памідор... Бывай жа, лецейка, бывай! — як напісаў наш беларускі класік. І адразу ж вы пільным позіркам прыкідваеце, што і дзе размесціце наступнай вясной. Вы ўжо марыце пра будучыню! Але не, пакуль патрабуюцца яшчэ адзін, ці не апошні ў гэтым годзе садова-агародны маленькі подзвіг — пакуль не ўзяліся як след замаразкі і не лёг снег.

**У лістападзе**, калі гэта па якой-небудзь прычыне не зроблена напрыканцы кастрычніка і замаразак моцна не прыхапіў зямлю, палетак яшчэ можна перакопваць. І гэта нават карысней, чымся такую справу рабіць зарана, калі розныя лічынкі шкоднікаў яшчэ рухомыя і здольныя зноў затачыцца ў глыбіню. Асабліва гэта тычыцца лічынак калараскага жука.

Камкі не рыхліце. Па-першае, лепей будзе затрымлівацца снег, а па-другое — так зямля "надыхаецца" паветрам, амаладзіцца. Яшчэ можна пасеяць жыта для веснавой перакопкі пад бульбу. Можна лубін.

Асцярожна перакапайце прыствольныя кругі ў садзе, затым зверху прысыпце торфам ці дробным кампостам. Ну, а самі дрэвы, асабліва яблыні і грушы, варта на зіму пабяліць. Калі ў краме вы не набылі спецыяльна падрыхтаваную пабелку, можна выкарыстаць крэйду, гашаную вапну, а то і проста гліну, дадаўшы ў сметанкападобны раствор са сталовую лыжку жалезнага купарвасу. Некаторыя для пабелкі прымяняюць таксама водаэмульсійную фарбу. Нехта беліць дрэвы і вясной — бо так быццам "прыгажэй". Але самае прыгожае дрэва — усё ж калі яно мае натуральную, нічым не запэцканую кару. А вось для гаспадарчай патрэбы бяліць лепш восенню: такім чынам кара аберагаецца не толькі ад ранневеснавых сонечных апёкаў, але і ад марозабоін. Адначасова — гэта надзейная абарона (асабліва, калі ў раствор дадаецца купарвас) ад грызуноў — зайцоў і мышэй. Лепей не карыстацца для абгорткі дрэва яловымі галінкамі. Зірніце на бліжэйшы лясок: колькі ўжо садаводы і агароднікі паспелі там бяздумна абкарнаць елачак — гэтых строгіх красунь нашых беларускіх лясоў, а да таго ж яшчэ і зімовых пастаўшчыкоў кіслароду для людзей. А колькі, дарэчы, тых жа елачак, прычым самых лепшых, ідзе пад сякеру дзеля забавы на Новы год! Паглядзіце ўважліва таксама на тых, хто цягне яловы лапнік з лесу. Заўважце, як хаваюць гэтыя людзі вочы, бо многія ўсё ж разумеюць, што абкрадаюць прыроду, а тым часам і сваіх блізкіх. А дрэвы ж можна, калі нехта не спадзяецца на пабелку, абгарнуць старым толем, руберойдам, навошчанай паперай, малiннікам. А некаторыя ўжываюць для гэтага "бінты" са старой цыраты (клёнкі), якую можна замочваць у растворы купарвасу — вось вам і дадатковая доўгатэрміновая дэзінфекцыя. Вясной бінты скручваюць і складваюць у пластмасавы мяшок — усё атрымліваецца акуратна, надзейна і хапае на некалькі сезонаў.

У кветніку вы, канешне, ужо акуратна зрэзалі падсохлыя сцябліны. Некаторыя, дарэчы, складваюць іх затым на самы верх кампосніцы, каб вясной класці ў баразны пад бульбу: кажуць, гэта адваджвае кратоў, якія не вельмі ахвочы соваць пысу ў калючы венік, а яшчэ — дае магчымасць лепей развівацца клубням.

Вы ўжо падсыпалі на кветнік торф ці лёгкі кампост. Дастаткова ўцяпляюць ружы, якія перад тым абразаюць і апырскваюць 3-працэнтным жалезным купарвасам. Укрываюць ружы, засыпаючы аснову зямлёй, торфам, пілавіннем, можна апалым лісцем іншых кустоў і дрэў на вышыню 20—25 см. Часцяком нехта яшчэ накрывае і лапнікам, але пра вялікую шкоду елкам ад такіх дзеяў ужо распавядалася вышэй. Таму культурныя садаводы ўстанаўліваюць над кустамі ружаў драўляныя ці металічныя каркасы, паверх якіх кладуць стары паралон, мату, руберойд, толь ці сінтэтычную плёнку, але пакідаючы пры гэтым вентыляцыйныя адтуліны.

Ну вось, зрабіўшы ўсё гэта, а заадно пераканўшы пустыя бочкі і вёдры дзе-небудзь у маліннiку ці за кустамі парэчак, можна і сапраўды разагнуць спіну, удыхнуўшы, напяць грудзі і ціха пастаяць на сваіх палетках, з замілаваннем назіраючы жвавыя клопаты прыгажунь-сінічак. Для якіх вы, канешне ж, не забыліся павесіць хаця б пару надзейных кармушак на моцных галінках дрэў.

**Ваш Д. Б.**

**Здароўе**

*Таццяна ФАМІНА,*
*кандыдат медыцынскіх навук*

## Сардэчны вітамін

### Альфа-такаферол

Пра гэты вітамін навуковы свет даведаўся ў 20-я гады з адкрыцця доктара Герберта М.Эванса, які з сваімі супрацоўнікамі вывяў у алеі з прахрошчанага пшанічнага зерня рэчыва, што спрыяла нармальнай плоднасці лабараторных пацукоў. Пазней яго назвалі такаферолам з прапановы прафесара грэцкай мовы ад словаў tokos 'нараджэнне' і phero 'насіць'. Пасля шматлікіх даследаў выявілася, што з розных мадафікацыяў гэтага вітаміну найболей біялагічна актыўным з'яўляецца альфа-такаферол. Ён, дарэчы, маецца ва ўсіх лісцевых агародных раслінах, у зерні збожжа. Паводле дадзеных англійскіх навукоўцаў утрымліваецца ў адным фунце (250 г):

лісця крапівы — 98,2
лісця мяты — 33,8
лісця морквы — 20,3
лісця дзьмухаўца — 17
лісця настурцыі — 17

так званых міжнародных адзінак (м.а.). Кожную прынята лічыць роўнай 1 міліграму, але больш дакладна падлічана, што 100 мг вітаміну Е раўняецца ад 136 да 149 м.а.

### Хто на ім з'еў зубы?

Усяму свету вядомы даследнік вітаміну Е канадскі навуковец Вільфрыд Е.Шут. У свой час ён абараніў доктарскія дысертацыі па біялогіі і медыцыне. Менавіта яму належыць першынства ў лячэнні сардэчных хваробаў вітамінам Е.

Шут упершыню ў 1936 годзе выразна палепшыў стан свайго хворага на сэрца пацыента, даючы яму значную дозу такаферолу ў выглядзе алею, выціснутага халодным спосабам з прахрошчанай пшаніцы. Ён жа ўпершыню пачаў лячыць так званым спосабам мегавітамінізацыі, калі хвораму давалі значную колькасць вітаміну, у прыватнасці такаферолу — у 100 разоў большую дозу, чым раіла тагачасная норма. Лекары баяліся гэтага новага метаду, памятаючы запаведзь Гіпакрата: Primum — non nocere (перш — не шкодзіць). Але доктар Шут, вылечыўшы 25 пацыентаў, хворых на сэрца, дамогся абследавання іх калегамі-інтэрністамі (спецыялісты па ўнутраных хваробах), якія не выявілі аніякіх пабочных уздзеяння такаферолу.

Далейшыя доследы паказалі, што вітамін Е нельга падаваць аднačасова з прэпаратамі, якія ўтрымліваюць жалеза, бо гэты хімічны элемент разбурае такаферол, што пры спажыванні вялікай колькасці раслiннага алею, які хаця і ўтрымлівае гэты вітамін, патрабуецца павялічваць дозу такаферолу,— гэта абавязкова трэба ўлічваць лекарам. Доктар Шут таксама абверг тагачасные памылковае меркаванне, што вітамін Е знішчае вітаміны С і D. Ім было даказана, што толькі пры лячэнні дзвюх хваробаў неабходная асаблівая асцярожнасць і дакладнасць: пры рэўматызме сэрца і пастаянным павышаным ціску. Прыкладам, пры рэўматычным паражэнні сэрца прызначаюць 90 м.а. вітаміну Е штодня, а пры ішэмічнай хваробе сэрца варта спажываць значна большую яго колькасць.

Доктар Шут даказаў, што адна з характэрных асаблівасцяў такаферолу — пачатковае павольнае яго ўздзеянне. Прыкладам, пры згаданай ішэмічнай хваробе звычайна трэба чакаць 5-10 дзён, каб вітамін Е пачаў дзейнічаць, ды толькі праз 4-6 тыдняў заўважаецца паляпшэнне самаадчування.

Паводле доктара Шута такаферол спрыяе лячэнню і менш небяспечных для жыцця хваробаў, прыкладам, сутаргаў лыткавых мышцаў, што часцей надараюцца ўначы, а таксама розных скураных хваробаў, у прыватнасці грыбковых. Спажываючы вітамін Е, паволі можна пазбыцца цёмных плямаў, што з'яўляюцца на скуры людзей старшага ўзросту. Ім жа такаферол дадасць энергіі, наогул, радасці жыцця.

*(Працяг будзе.)*

***Вучымся***

## "Мова — не безгаспадарчая маёмасць..."

Добры дзень, паважаная рэдакцыя! Дасылаю вам свае разважанні наконт артыкула "Перакладаць — не перакрадаць".

Напачатку я хацела б прывесці цытату з Б.Пастэрнака: "Мова — не безгаспадарчая маёмасць, якую можна псаваць і калечыць беспакарана..." Гэтыя словы павінен памятаць кожны перакладчык.

Працу Сяргея Дзеравянкі я ацэньваю на пасрэдна, бо памылак у яго хапае.

1. **Гатаваныя** — не абавязкова вараныя (напрыклад, салата, згатаваная з сырых буракоў).

2. **Заўсёды** (?) **раніцай** — не ўказана.

3. **Адменна** — калька з расійскай **отменно**; у расійскай мове гучыць натуральна.

4. **Лаяцца** — слова, якое не падыходзіць па кантэксту (брудна лаяцца, часцей, у адносінах да моцнага полу).

5. **Большай часткай** — калька з расійскай **большей частью**. У нас скажуць: **у большай ступені, пераважна** і г.д.

6. **Уласціва**? Але ў арыгінале пра гэта не ўпамінаецца.

Мой жа варыянт такі:

**Яна пляла плёткі і снедала варанымі буракамі і сварылася занадта добра — і пры ўсіх гэтых разнастайных занятках выгляд яе заставаўся нязменным, што пераважна можа праяўляцца ў адных толькі жанчын.**

Або:

**Яна пляла плёткі і ела ўранні вараныя буракі і сварылася вельмі цудоўна — і пры ўсіх гэтых занятках абрысы яе твару ні на хвіліну не мяняліся, што зазвычай можа праяўляцца ў адных толькі жанчын.**

**Мальвіна Белая.**

Спадарыня **Л.Судзілоўская** з Гомеля прапануе свой варыянт перакладу ўрыўка з Гогалеўскага твора, што даслаў у рэдакцыю "НС" С.Дзеравянка і быў змешчаны ў № 31 за 1 жніўня г.г. пад загалоўкам "Перакладаць — не перакрадаць":

**"Яна пляткарыла і заўсёды раніцай ела гатаваныя буракі і адменна як мае быць лаялася — і пры ўсіх гэтых разнастайных занятках твар яе ні на хвіліну не змяняў свайго выразу, што звычайна ўласціва толькі жанчынам".**

Конкурс працягваецца. Дасылайце свае варыянты перакладу і ацэнкі, аналіз працы папярэднікаў.

# Прах сына Якуба Коласа развеяны над Пінскам

Нядаўна палескую сталіцу наведала сям'я сына Якуба Коласа Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча. Згодна з апошняй воляй нябожчыка ягоны прах быў развеяны над палескай зямлёй — радзімай памерлага.

Як вядома, шмат старонак біяграфіі песняра Беларусі Я.Коласа звязана з Піншчынай. Тут ён працаваў настаўнікам, займаўся літаратурнай дзейнасцю, а 3 чэрвеня 1913 года адбылося ягонае вяселле з Марыяй Каменскай. У іхнім пінскім доме па вуліцы Вадаправоднай і нарадзіўся першы сын Даніла.

Сваё жыццё ён прысвяціў навуцы, працаваў у АН Беларусі, быў вучоным сакратаром Інстытута хіміі. Пасля смерці бацькі Даніла Міцкевіч займаўся апрацоўкай асабістага архіва Я.Коласа, пісаў успаміны, рыхтаваў да публікацыі дакументальныя матэрыялы пра беларускага паэта. У апошнія гады жыцця ён займаўся гэтым разам са сваёй дачкой Верай — навуковым супрацоўнікам мемарыяльнага дома-музея песняра.

Згодна з тэстаментам Д.К.Міцкевіча, частка ягонага праху павінна быць развеяна ў Менску ля магіл бацькі і маці, а частка — на радзіме ў Пінску. Сям'я нябожчыка выканала ягоную волю, а для праправнучкі Якуба Коласа Валянціны гэта стала нагодай упершыню наведаць горад, з якім так шчыльна звязана імя яе вялікага продка.

**Язэп СІНІЦКІ.**

**На здымку**: справа — дачка Данілы Міцкевіча, злева — праправнучка Якуба Коласа.



***Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску***

*Свет вершаў выдатнай чылійскай паэтэсы Габрыэлы Містраль (1889-1957) — гэта найперш свет любові да ўсяго добрага, што існуе на свеце.*

***Габрыэла МІСТРАЛЬ***

### СОРАМ

Калі глядзіш, прыгожаю раблюся,
Нібы трава, кранутая расою,
І чараты ў сваёй высокай скрусе
Не пазнаюць, калі іду з ракою.
Мне сорам за мае ў маркоце губы,
За хрыплы голас, грубыя калені.
Як ты знайшоў мяне, адчула згубу,
Сваё кранулышы цела ў задуменні.
Ты каменя не ўгледзеў пры дарозе
Галейшага на досвіткавым лядзе,
Чым гэтая жанчына, што ў знямозе
Падняў, бо песня чулася ў паглядзе.
Я змоўчу, каб вандроўнікі даліны
Пра шчасце не дазналіся ніколі,
Не пакажуся — свеціцца нявінна
Мой грубы лоб, дрыжыць рука міжволі.
Ноч надышла, раса траву шукае;
Глядзі даўжэй, кажы ў ласкавым суме,
А заўтра ўжо з ракою пойдзе тая,
Што ты сягоння цалаваў, красуня.

### ЗОЛАК

Сэрца раздзьмухваю, каб у яго ўвайшоў
вадаспадам гарачым Сусвет світання,
новы прыходзіць дзень, і ягоны прыход
пакідае мяне без дыхання.
Новы мой дзень пяю,
я пяю, нібы грот чакання.
І за страчаную і набытую зноў
я атрымліваю літасць вітання,
бедная, атрымліваю, не даючы,
покуль Гаргона начы,
пераможаная, не растане.

### ЗАХОД СОНЦА

Адчуваю, сэрца ад асалоды
растае, нібы свечка ў целе:
карціна алеем знікае ў жылах,
а прыход намаляваць не паспелі,
адчуваю, жыццё ад мяне ўцякае
моўчкі, з пяшчотай газелі.

**Пераклад з іспанскай Рыгора БАРАДУЛІНА.**

# І смех і грэх

***У старых фаліянтах***

## Дзённы сакратар

Вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт Аўгуст быў вельмі шчаслівым у другім шлюбе. Вялікае каханне злучыла яго з Барбарай Радзівілішкай навек. Але не доўга яны цешыліся сваім шчасцем. Пасля смерці каханай жонкі Жыгімонт Аўгуст не змог пазбавіцца адзіноты і пустаты, памяць і жальбу праяўляў ён усё далейшае жыццё: захоўваў Барбарыны строі, партрэты, апранаўся выключна ў чорнае, чорным сукном загадаў абабіць свае пакоі. Ды ўсё ж вялікі князь і кароль не быў аскетам. Гарачую, паўднёвую кроў (маці яго паходзіла з Італіі) не магла астудзіць нават смерць каханай. Вядома, што меў некалькі каханак.

Дзеля дзяржаўных інтарэсаў, пасля нарадаў з сенатарамі і панамі-радай ВКЛ, ён пабраўся шлюбам з Кацярынай (роднай сястрой першай жонкі) з Габсбургаў, вядомай дынастыі рымска-нямецкіх і аўстрыйскіх імператараў. Трэці шлюб быў такім жа, як і першы. Жыгімонт Аўгуст жыў з некаханай Кацярынай у фактычнай сепарацыі, да чаго спрычынілася яе хвароба: прыпадкі эпілепсіі здараліся "ў самыя неадпаведныя моманты".

Бацька каралевы Фердынанд Габсбург, як кожны бацька, балюча перажываў дачкчыну нядолю, ведаючы пра жыццё каралеўскага Кракаўскага двара пераважна з плётак. Таму, калі ў Вену прыехаў каралеўскі сакратар Марцін Кромер, імператар запытаўся ў яго, ці праўда, што каралеўская пара не ладзяць між сабой, не жывуць, як то належыць мужу і жонцы, ды ці не перарвецца дынастыя Ягелонаў.

Кромер адказаў так:

— Не ведаю, яснавяльможны пане, бо я ж з'яўляюся толькі дзённым сакратаром майго караля.

**Вычытаў З.С.**

***Пачутае "У Лявона"***

### З ДОБРАГА СЭРЦА

— Ты ведаеш, Лёлін каханак Леапольд купіў ёй мерседэс.

— І з чаго ж гэта ён — звычайны мяснік — купіў?

— Кажа, што з добрага сэрца.

### ДРОБЯЗЬ

Муж жонцы:

— Дарагая, віншую цябе з днём нараджэння. Я прынёс табе памаду.

— О, памаду! Карычневую! Яна будзе пасаваць да новага футра.

— Да якога футра?

— Ты ж сам сказаў, здымі грошы з кніжкі і купі сабе што-небудзь.

— Але ж я думаў — якую-небудзь дробязь.

— Ну так, гэта ж дробязь — у параўнанні з тым, што купіў сваёй жонцы сусед.

### ЛЁГКІ КУРС

— Лёля, ты ўжо навучылася ездзіць на мерседэсе?

— Не магу знайсці адпаведныя курсы.

— Запішыся на звычайныя.

— Навошта мне забіваць галаву ўсімі скрыжаваннямі і паваротамі. Мне хопіць навучыцца завозіць дзяцей у школу і забіраць іх.

### УЗАМЕН

Былы муж былой жонцы:

— Я не атрымаў зарплату — не магу даць аліменты. Прапаную табе ўзамен...

— Мех бульбы?

— Не. Можна, я вярнуся на гэтыя 30 дзён?

### УРАЖАННІ

Лёля вярнулася з турысцкай паездкі ў Афрыку. Госцішынка наперабой пытаюцца пра ўражанні.

— Усё было цудоўна. Вось толькі аднаго разу...

— Цябе ўкусіла муха цэцэ?

— Ніякай мухі. Я была запрошана на абед да вадара племені канібалаў і... спазнілася. І калі мы ўсё ж прыехалі, гаспадар толькі рукамі развёў: усе ўжо з'едзены.

### НА СВОЙ ГУСТ

Госць замаўляе вячэру:

— ... і якую-небудзь рыбу, толькі каб не тлустую... што-небудзь — на свой густ.

Афіцыянт:

— Але ж тараноў у нас няма.

### КАБ НАПІЦЦА

— Афіцыянт! Прынясіце сто грамаў!

Афіцыянт здзіўлены гэтай просьбай бывальца, які ніколі не замаўляў алкаголь:

— Непрыемнасці на працы?

— Яшчэ горш — не купіў шкарпэткі.

— Праз гэта піць?

— Там такая прадаўшчыца... І калі яна спыталася, чаго я хачу... Мне хацелася сказаць: хачу завязці Вас на Канарскія астравы і лашчыцца з Вамі на пляжы... Дык ці мог я прасіць шкарпэткі за дзевяць тысяч?

**Учуў З.С.**

# Даты і падзеі ў кастрычніку

**10** — 57 гадоў таму Сталін перадаў Вільню і Віленскі край Летуве.

**11** — 80 гадоў з дня нараджэння паэтэсы Эдзі Агняцвет.

**12** — 490 гадоў таму вялікім князем ВКЛ абраны Жыгімонт — пяты сын вялікага князя ВКЛ (з 1440 па 1492) і караля Польшчы (з 1447 па 1492) Казіміра Ягайлавіча.

**13** — 330 гадоў таму "государево жаловано полтину взял и руку приложил Ивашка Дракуля", былы жыхар ВКЛ, рэзчык па косці пры двары маскоўскага цара. А перад гэтым ён падаў чалабітную цару Аляксею Міхайлавічу, у якой скардзіўся, што не мае грошай, каб ахрысціць сына.

— 190 гадоў таму напалеонаўскія войскі ўвайшлі ў нямецкі горад Іену. Прусія, якая пачала гэтую вайну (1806 год), была пераможана і страціла тэрыторыю на левым беразе Эльбы.

— 100 гадоў з дня нараджэння Міколы Шчакаціхіна, маскоўца, выпускніка Маскоўскага універсітэта (1918), супрацоўніка Інбелкульта, АН БССР, аднаго з пачынальнікаў беларускага савецкага мастацтвазнаўства — выпрацаваў навуковую канцэпцыю гісторыі беларускага мастацтва, аўтара "Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва" (т.1., Мн. 1928.)

— 50 гадоў з дня нараджэння Юрыя Якімовіча, гісторыка архітэктуры і педагога.

**14** — Пакровы.

— 295 гадоў таму жонка віленскага ваяводы Паўла Сапегі скардзілася ў Слонімскі гарадскі суд на камісараў — ксяндза Хрыстафора Белазора, віленскага каноніка, і на пана Мацея Есьмана, сына слонімскага харужага, якія прынялі бок сялян, што паднялі бунт і не захацелі выконваць у далейшым аніякіх павіннасцяў гаспадарскаму двару. Сяляне годам раней дамагліся выкліку ў рэферэндарскі суд у Варшаву палявога пісара ВКЛ пана Міхала Сапегі. Згаданы суд прызначыў камісію (першую). Але тыя камісары, ідучы насустрач пажаданню сялянаў, адклалі справу. Сяляне ж звярнуліся да караля Рэчы Паспалітай і атрымалі ад яго грамату, на падставе якой запрасілі другую камісію ў складзе згаданых вышэй. (Як бачым, сяляне ў ВКЛ маглі выклікаць у галоўны суд нават свайго ўладара.)

**15** — 80 гадоў таму тэатр Францішка Аляхновіча паставіў у Вільні спектакль "Хам" паводле аповесці Элізы Ажэшка. Такім чынам быў пакладзены пачатак беларускаму тэатру ў Вільні.

— 80 гадоў таму расійская настаўніцкая семінарыя ў Свіслачы рэарганізавана ў беларускую.

— 60 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Шлега, пісьменніка, публіцыста, кінасцэнарыста.

— 35 гадоў таму адкрыты Крычаўскі музей.

**16** — 245 гадоў таму каралеўскія камісары Рэчы Паспалітай разгледзелі ўзаемныя прэтэнзіі менскіх мяшчанаў і яўрэяў і загадалі, "каб купцы, што гандлююць выробленымі скурамі, без згоды і ведама магістрата патаемна не вывозілі тавар пад пагрозай канфіскацыі яго і важылі на ратушных вагах... 400 цэнтнераў юхці дазволена было важыць без аплаты, а калі будуць больш купляць, то за кожныя 10 цэнтнераў неабходна плаціць па 3 злотыя за вагу на карысць гарадской ратушы. За важанне замшы зверх 5 карабоў па 30 камянёў у кожным — па 9 грошаў за кожны камень...

— 245 гадоў таму камісарскі суд разгледзеў скаргу намесніка менскага старасты Узлоўскага на войта, лентвойта і магістрат Менска, якія падбухторвалі мяшчанаў напасці на млын і мост, якія належалі менскаму замку... Таксама абвінавачаны е.м. (яго мосць) пан войт з шкодай млынам — замкаваму і гарадскому — самапраўна пабудаваў млын на абодвух чужых берагах магутнасцю на 24 карцы, заняў плаціны і затапіў нямала паплавоў... а менавіта: поплаў і.м. (іх мосці) ксяндзоў дамініканцаў на 60 вазоў сена за лета...

**17** — 80 гадоў таму пачаліся заняткі першых настаўніцкіх курсаў у Свіслацкай настаўніцкай семінарыі і працягваліся да 29 студзеня 1917 года.

— 60 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Станюты, крытыка і літаратуразнаўца.

— 45 гадоў таму газета "Літаратура і мастацтва" паведамляла, што ў Полацку адбылося апошняе выступленне 85-гадовага дудара І.Гваздзя з Ушацкага раёна. Ён іграў "*Жніўную*" і "*Барыню*".

**Падрыхтаваў З.С.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 233-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.
Адказны сакратар — Уладзімір Анісковіч.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 1077

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 2754 паасобнікі.
Падпісана ў друк 8.10.1996 г. у 15 гадзін.